# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каляндары • Весткі

## СВЕТ

### АБ МІНАЮЧЫМ ГОДЗЕ

Міжнародная абстаноўка і палітычныя міжнародныя здарэнні 1967 года не прынеслі такіх вынікаў, аб якіх марыць чалавецтва. Калі ў мінулым годзе ў святочны перадвнавагодні дзень былі мы думкамі са змагаючымся за свабоду в'етнамскім народам, нам можа і здавалася, што новы год прынясе гэтым людзям мір. Аднак так не сталася. У той час, калі мы святкуем і радуемся мірным будаўніцтвам, в'етнамскі народ пакутуе.

Вайна ў В'етнаме працягваецца, але народы міру ў мінаючым 1967 годзе часцей і магутней пачалі супраць яе пратэставаць. Адным з праяваў гэтага пратэсту з'яўляецца Міжнародны Трыбунал да доследаў амерыканскіх злачынстваў у В'етнаме Бертранда Расля.

1967 год характарызаваўся таксама шматлікімі дзяржаўнымі пераваротамі асабліва ў краінах, якія нядаўна атрымалі незалежнасць. І гэта не было нечаканасцю, таму што гэтыя краіны перажываюць рознага характару ўнутраныя цяжкасці. А іх імкненне да незалежнасці наводзіла жах у ЗША, і зараз жа іх разведка прыступала да арганізацыі путчу.

Але 1967 год прыносіў моманты і напружанай міжнароднай абстаноўкі. Ізраільска-арабскі канфлікт стварыў надта складаную сітуацыю на Блізкім Усходзе ды і на цэлым свеце. У гэтым выпадку зноў нельга не падкрэсліць ролі і кансалідацыі прагрэсіўных сіл. Бо тое, што ААН абсудзіла ізраільскую агрэсію і выказалася за вывядзеннем ізраільскіх войск з акупіраваных арабскіх тэрыторый міма камбінацыі ЗША, з'яўляецца наяўным таго доказам. Год 1967 паказаў, што народы свету павінны быць пільнымі. У Грэцыі пераняла ўладу яўна фашысцкая хунта генералаў, якая стаптала ўсе дэмакратычныя правы народа. Нельга забыць, што ў Еўропе абрастае ў новае пер'е фашысцкая партыя ў Заходняй Германіі. Варта падкрэсліць, што сітуацыя з НПД паўтараецца амаль у адносінах да праблемы гітлераўскай партыі. І зноў трэба сказаць, што ўсё гэта робіцца калі не з дапамогай дык пры падтрымцы ЗША.

Іменна 1967 год паказаў нам у святочным юбілейным выглядзе, як ніколі, Краіну Саветаў, якая безупынку змагаецца за шчасце чалавецтва. Вочы цэлага свету былі звернуты праз увесь 1967 год на СССР захапляючыся яго навуковымі і тэхнічнымі даследваннямі, дбайнасцю аб сацыяльныя справы чалавека працы, мілітарнаю магутнасцю, мірнай палітыкай Краіны Саветаў. А гэта прынесла шмат сімпатыі не толькі СССР, але ўсяму сацыялістычнаму лагеру.

І калі, Дарагі Чытач, будзеш пераглядаць гэтыя малюсенькія вытрымкі аб 1967 г. і будзеш думаць аб 1968 годзе, ведай, што мір і шчасце трэба здабываць у безупынным змаганні.

**А. Карпюк**

## БССР

### КДБ

Урачыста святкуецца на Беларусі 50-годдзе органаў контрразведкі і разведкі. З гэтай нагоды **У. Пятроў,** старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі (КДБ) пры беларускім Савеце Міністраў, выступіў з артыкулам **«Паўвеку на стражы»,** які апублікавана на старонках «Советской Белоруссии».

«...органы дзяржаўнай бяспекі пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, апіраючыся на шырокую падтрымку і дапамогу працоўных, пільна следзяць за прошукамі ворагаў Савецкай дзяржавы. рашуча перасякаюць падрыўную дзейнасць імперыялістычных разведак. (...) Толькі чэкістамі Беларусі было выяўлена і выкрыта шэраг агентаў амерыканскай, англійскай і заходненямецкай разведак», — м. ін. піша Пятроў.

Урачыстасці гэтыя на Беларусі тым больш знамянальныя, што, менавіта, з Беларусі — з ваколіц Маладзечна — паходзіць першы арганізатар савецкіх органаў бяспекі, Фелікс Дзяржынскі. Вярхоўныя беларускія ўлады выступілі з прывітальным пісьмом да работнікаў беларускіх органаў дзяржаўнай бяспекі. Адбываецца шмат акалічнасных мерапрыемстваў, публікуюцца невядомыя матэрыялы і ўспаміны.

### ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум Мінскага абкома КП Беларусі, у час якога абмеркавана абавязацельствы працоўных у гонар дастойнай сустрэчы 50-годдзя стварэння Беларускай Дзяржавы і заданні пяцігадовага плана.

У пленуме ўдзельнічаў **П. Машэраў,** першы сакратар ЦК КП Беларусі.

### ПРЫЗ

Беларуская «Звязда» паведамляе, што на другім фестывалі тэлевізійных фільмаў, які праходзіў у Маскве, фільм **«Побач з вамі»** вытворчасці «Беларусьфільма» адзначаны прызам Саюза кінематаграфістаў СССР.

### УПЕРШЫНЮ

Агенцтва ТАСС з Ленінабада паведамляе, што знойдзена тут першы рускі пераклад апавядання «Бунт» Якуба Коласа. Раней лічылася, што ўпершыню на рускую мову было перакладзена апавяданне «Палессе» ў 1929 годзе. Аказалася, што Якуб Колас стаў вядомы рускаму чытачу ўжо ў 1907 годзе. Менавіта, у гэтым годзе і апублікавана (ў перакладзе) апавяданне «Бунт» у газеце «Асхабад», якая выходзіла на рускай мове Закаспійскай вобласці — цяперашняя Туркменія. Перакладчыкам яго з'яўляўся Багдан Рыка.

### ФУКС

Польскі музычны крытык Мар'ян Фукс апублікаваў на старонках беларускага друку свае разважанні аб магчымасцях папулярызацыі беларускай музыкі ў Польшчы. — **«Усё часцей з'яўляюцца ў нас звесткі аб новых творах беларускіх кампазітараў, але, на жаль, мы рэдка чуем гэтыя творы»** — — піша Фукс, сцвярджаючы аб вельмі слабым супрацоўніцтве паміж двума творчымі асяроддзямі. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ДЗВЕ СПРАВЫ

Сярод шматлікіх спраў, якія хвалявалі грамадства краіны ў мінулым годзе, на дзве з іх варта звярнуць увагу ў гэтым месцы. Першая — гэта святкаванне 50 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, другая — гэта новыя ініцыятывы ў галіне далейшага развіцця сельскагаспадарчай прадукцыі.

Асноўнай думкай юбілейных святкаванняў, згодна з пастановамі VIII Пленума ЦК партыі, было паглыбленне ў цэлым нашым грамадстве зразумення асаблівай ролі Вялікай Сацыялістычнай Кастрычніцкай рэвалюцыі, Савецкага Саюза і сацыялістычнай сістэмы ў гісторыі чалавецтва. Пад знакам гэтага вялікага юбілею адбываліся ў краіне ўсе афіцыйныя святкаванні, у тым ліку і святкаванні польскага нацыянальнага характару.

Святкаванне вялікай гадавіны ў значнай меры прычынілася да спапулярызавання ідэі польска-савецкай дружбы і ўсебаковага супрацоўніцтва. Апрача сотняў розных мерапрыемстваў, якія праводзілі ў сувязі з гадавінай амаль усе дзейнічаючыя ў краіне арганізацыі, вялікую ролю ў папулярызацыі ведаў аб СССР адыграла багатая дзейнасць у гэтым напрамку нашых выдавецтваў. У 1967 годзе выдадзена ў нас дзесяткі кніжак аб рэвалюцыі, рэвалюцыйным супрацоўніцтве розных народаў, аб СССР і культуры народаў Савецкага Саюза.

Зусім іншай галіной жыцця, якая адзначалася ў 1967 годзе вялікімі падзеямі, з'яўляецца сельская гаспадарка. Падзеяй такой былі перад усім пастановы IX Пленум ЦК партыі. Пленум вырашыў дзве групы праблем: па-першае, цэласць спраў звязаных з далейшым узростам сельскагаспадарчай прадукцыі, па-другое, справы звязаныя з гаспадараннем зямлі.

Увесь акцэнт сельскагаспадарчай палітыкі перанесена на вёску і на грамаду. Увага сканцэнтравана перад усім на выяўленні прадукцыйных рэзерваў сельскай гаспадаркі і апрацоўкі праграм іх ажыццяўлення. Падставай сталіся вясковыя і грамадскія планы развіцця сельскагаспадарчай прадукцыі, на апрацаванне якіх накіравана значныя сілы спецыялістаў. Упершыню такая вялікая ўвага звернута на справы выкарыстання зямлі і ўласцівай гаспадаркі зямлёю. У сувязі з тым, што абшар зямлі, які выпадае на кожнага жыхара краіны, безупынна памяншаецца, запатрабаванне на сельскагаспадарчыя прадукты, наадварот — пабольшваецца, апрацавана шырокі план рацыянальнага выкарыстання ўсёй зямлі, якая надаецца да загаспадаравання. Сярод асноўных метадаў у рэалізацыі гэтага плана на першым месцы ставіцца пераймание рознымі спосабамі зямлі ад гаспадароў, якія з тых ці іншых прычын не могуць ці не хочуць належна яе загаспадароўваць, а таксама камасацыя зямель, якія зараз у цераспалосіцы. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ГАДОВЫ ПАДЛІК

Падлікаў (рэманентаў) мы не любім, але гэты неабходны. Добры гаспадар павінен ведаць, з якім багажом уваходзіць ён у новы 1968 год, што прынёс яму папярэдні 1967. Нас перш за ўсё цікавіць

### СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

На працяту 1967 года сяляне Беласточчыны далі прадуктаў на суму ў звыш 16 мільярдаў 400 мільёнаў злотых. Цікава, што на гэтую суму перш за ўсё склалася прадукцыя раслінных культур, а пасля — гадоўля.

Ураджай збожжа склаў у 1967 г. — 12 цэнтнераў з аднаго гектара, бульбы паводле ўступных дадзеных шацункавых — 177 цэнт., цукровых буракоў — 315 цэнт., сена 38,8 цэнт.

Кароў і цялят было ў 1967 годзе амаль па 42 на кожнай сотні гектараў зямельных угоддзяў. На працягу ўсяго 1967 года асабліва вялікую ўвагу звярнулася на пашырэнне прадукцыі збожжавых культур. Дзеля гэтага шырока праводзіцца кантрактацыю, якая дае для хлебаробаў шматзначныя прывілеі. У 1967 годзе сяляне закантрактавалі жыта 35 тысяч гектараў, пшаніцы — 10 тысяч га і іншых збожжавых культур — амаль 13 тысяч га.

Прырост ураджайнасці палёў перш за ўсё звязаны з прымяненнем штучных угнаенняў. У 1967 годзе не было клопату з іх пакупкай. Аднак сяляне на 1 гектар зямельных угоддзяў закупілі ўсяго ледзь 45,5 кг штучных угнаенняў у чыстым рэчыве. Гэта мала, тым больш мала, што пад збожжа, як паказала падрабязная праверка, сяляне сялі па 10—20 кілаграмаў.

На патрэбы капіталаўкладанняў гаспадары ваяводства ў мінулым годзе аддзялі 734 мільёны 600 тысяч злотых. На гэтыя грошы будавалі прадпрыемствы перапрацоўкі сельскагаспадарчай сыравіны, меліяравана сенажаці і праводзілі дрэнаж палёў, электрыфікавана вёску. Шмат грошай было прызначана на актывізацыю дзяржаўных сельскіх гаспадарак — ПГР-аў.

Калі разыходзіцца пра электрыфікацыю, найбольш электрыфікаваным з'яўляецца Беластоцкі павет. Тут аж 93,2% вёсак маюць ужо электрычнае святло. У мінулым годзе электрыфікацыйныя працы згуртаваліся асабліва ў паветах: Замбраўскім (34 вёскі), Высокамазавецкі (28 вёсак) і Сакольскім (23 вёскі). Многа электрыфікавана таксама ў Гайнаўскім павеце — 18 вёсак. Гэты павет залічваецца да перадавых па электрыфікацыі. У цэлым ваяводстве электрычным святлом карыстаюцца ўжо 77% вёсак. Варта яшчэ адзначыць, што сяляне на пакупку розных тавараў у крамах ВЗГС выдалі ў 1967 годзе каля 4 мільярдаў злотых, а грашовы абарот у гасподах і рэстаранах склаў суму каля 600 мільёнаў злотых. (вр)




**NIEDZIELA, 31.XII.**

10.25 Program dnia. 10.30 „Przypominamy, radzimy". 10.40 „Kociaków nie zabierzemy" — film fab. CSRS. 12.00 PKF. 12.10 Dziennik. 12.20 „Kalejdoskop gwiazd i melodii" — sylwestrowy koncert melodii rozrywkowych. 13.00 „Płacz moje serce" cz. II („W starym kinie"). 14.00 „Przemiany". 14.30 „Fałszywi świadkowie" — film („Uciekinier"). 15.00 Dla dzieci: J. Wilkowski „Czar stołowej nogi". 16.00 „Sport 1967". 17.00 „Wymarłe miasto" — film („Bonanza"). 18.00 „Tu radio Istebna" („Ludzie i zdarzenia"). 18.10 „Leśny sylwester" — film radz. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Noworoczne. 20.25 „Jadą komedianci" — piosenki Kabaretu „Semafor". 21.15 „Szowo i bankier" — film („La Fontaine wiecznie żywy"). 22.15 „Hollywoodzka kawalkada" — film fab. USA. 23.20 „Koncert na Półtorej Orkiestry" — film estradowy CSRS. 24.00 Powitanie Nowego Roku. 0.05 Program rozrywkowy. 1.05 „Po północy" — film estradowy węg. 1.20 „Strzelajcie do pianisty" — film fab. fr. 2.40 „Latająca piłka" — filmowy program rozrywkowy japoński.

**PONIEDZIAŁEK, 1.I.68 r.**

10.10 Program dnia. 10.15 Dziennik. 10.25 „Kociaków nie zabieramy" — film fab. CSRS. 11.45 „Aida" — opera G. Verdiego — włoska wersja filmowa. 14.20 Teatr Młodego Widza: E. Niziurski: „Wakacje z intruzami". 14.30 Sprawozdanie sportowe. 16.20 Teatr TV: „Król" — komedia G. Caillaveta i R. de Flersa. 17.45 „Konkurs" — rep. film. 18.05 Kino Krótkich Filmów. 18.30 „Telewidzenia" — program Stefanii Grodzieńskiej. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Nauki małżeńskie pani Caudle" cz. IV. 20.25 „Jego piosenki" — śpiewa W. Młynarski — film tv pol. 20.40 „10 procent dla Was" — film fab. ang. 22.00 Wiadomości sportowe.

**WTOREK, 2.I.**

9.00 „Teleferie": 1) „Towarzystwo Zagadkowe Poranne", 2) „Holenderska przygoda" — film fab. ang. 10.10 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.50 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 „Teleferie": 1) „Towarzystwo Zagadkowe Wieczorne", 2) „Magiczna pałeczka" (III), 3) „Latający Holender na Równiku". 17.50 „7 milionów młodych". 18.05 „Nie tylko dla pań". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.40 „Giełda Piosenki". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Przylądki Nowych Nadziei". 20.30 „Tytoń" — film fab. bułg. 22.30 Dziennik.

**SRODA, 3.I.**

9.00 „Teleferie": 1) „Towarzystwo Zagadkowe Poranne", 2) „Biały kieł" — film fab. radz. 10.30 Przerwa. 11.00 „Czerwone buki" — film („Sherlock Holmes"). 11.50 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.45 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 „Teleferie": 1) „Towarzystwo Zagadkowe Wieczorne", 2) „Pan Półka i Spółka", 3) „Kino Ptyś". 17.45 PKF. 17.55 „Telekram". 18.05 „Śladami reniferów" — film radz. 18.20 Wszechnica TV: „Jak patrzeć na dzieło sztuki". 18.50 „Jazz w Filharmonii". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Czerwone buki" — film („Sherlock Holmes") 20.55 „Światowid". 21.25 „Bardzo starzy oboje" — film tv pol. 21.55 „Panorama Literacka". 22.25 Dziennik.

**CZWARTEK, 4.I.**

9.00 „Teleferie": 1) „Towarzystwo Zagadkowe Poranne", 2) „Spotkanie z diabłem" — film fab. fr. 10.20 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.55 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 „Teleferie": 1) „Towarzystwo Zagadkowe Wieczorne", 2) „Turniej Żółtej Żyrafy". 18.05 „Bryza". 18.30 „Tabun Bongo" („Z kamerą po świecie"). 18.45 „Historia muzyki". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Meble do naszych mieszkań". 20.35 „Kto czym wojuje..." — film fab. fr. 22.05 Magazyn Medyczny. 22.35 Dziennik.

**PIĄTEK, 5.I.**

10.00 „Na dnie" — film fab. fr. 11.30 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.05 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.15 „Karawana wyrusza po sól" — film („Wielka przygoda"). 17.45 „Kiedy trzeba podjąć decyzję" — program wiejski. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 Wszechnica TV: „Droga w Kosmos". 19.00 „Wielokropek". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 — rep. film. 20.35 „Na dnie" — film fab. fr. 22.05 „10 minut recenzji". 22.15 „Budowlany potok" — progr. publ. 22.45 Dziennik.

**SOBOTA, 6.I.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia („Anglia"). 10.25 „Wielki błękitny szlak" — film fab. fr.-wł. 11.20 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 TV Kurs Rolniczy: „Produkcja i wychów prosiąt". 16.20 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 16.30 Program tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego". 17.45 „Papierowy gołąbek" — film fab. bułg. 18.05 „Śladami badaczy Antarktydy" — film („Świat, który nie może zginąć"). 18.35 „Warszawa, ja i Ty". 19.00 „Wieczorne rozmowy". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Pegaz". 20.55 „Małżeństwo doskonałe" — program rozrywkowy. 22.05 Ogłoszenie Plebiscytu „Przeglądu Sportowego" na 10-ciu najlepszych sportowców Polski w 1967 roku". 22.35 Dziennik. 22.50 „Wielki błękitny szlak" — film fab. fr.-wł.




**Piątek, 29 grudnia**

14.40 Program dnia. 14.45 Dziennik. 14.50 Język ang. dla przedszkolaków. 15.20 Eureka. 16.00 Białoruska Panorama. 16.10 Dokumentalny film TV. 17.00 „Obok was". Film. 18.05 Sztafeta Nowin. 19.00 Koncert życzeń. 19.45 Program poświęcony Rumunii. 20.05 „W świecie tańca".

**Sobota, 30 grudnia**

7.00 Dla uczniów szkół technicznych. 8.00 Gimnastyka. 8.30 Język ang. dla przedszkolaków. 9.00 Dla studentów. 11.15 Program dnia. 11.20 Spektakl TV dla dzieci. 12.00 Telewizja barwna. 13.30 Noworoczny program młodzieżowy. 14.30 Dziennik. 15.00 Program poświęcony powstaniu ZSRR. 15.30 Program muzyczny. 15.50 Klub Filmowy. 16.50 Dla uczniów. 17.05 Artysta ludowy BSRR W. Cwirka. 17.30 „Cyklon powstaje nocą". Film. 18.45 Dziennik. 19.15 Spotkania teatralne. 20.45 „Kultura fizyczna i sport".

**Niedziela, 31 grudnia.**

7.55 Program dnia. 8.00 Budzik. 8.30 Spektakl TV dla dzieci. 9.10 Film dla dzieci. 11.00 Szkatułka Muzyczna. 11.35 Reportaż filmowy. 12.00 Telewizja barwna. 13.30 Kiosk Muzyczny. 14.05 „Koło historii". 14.20 Koncert. 15.05 Przegląd noworoczny dla uczniów. 16.00 Reportaż z 1967 roku. 17.00 „Człowiek, którego kocham". Film. 18.30 Dziennik. 18.55 Program cyrkowy. 19.30 „Trzynaście krzeseł". TV teatr miniatur. 20.30 „Najwyższa choinka". Program noworoczny.

# ВЯСКОВЫЯ ПАРТРЭТЫ



Размова. Фота: Ул. Паўлючук

Даўно існаваў у Мастаўлянах гурток ЗМВ, але толькі на паперы. Ужо нават самі члены пазабываліся, хто запісаўся некалі, а хто не.

І раптам у верасні гэтага года, калі сабраліся ў школу пасля летніх канікул маладыя настаўніцы (а іх у Мастаўлянах аж пяць), вырашылі ажывіць працу моладзі ў вёсцы. Па ініцыятыве настаўніц Іры Буйко і Ніны Кулікоўскай разам са старшынёй гуртка ЗМВ Фёдарам Буднікам гуртkоўцы падрыхтавалі п'есу «Мікітаў лапаць».

Гэта была незвычайная падзея ў Мастаўлянах. Сабраліся ў школе на прадстаўленне жыхары не толькі сваёй, але і навакольных вёсак. Усім вельмі спадабалася п'еса, а яшчэ больш свае ўласныя артысты.

Гарачы прыём гледачоў моцна падбадзёрыў гуртkоўцаў і дадаў ім ахвоты да далейшай працы. Пераглядзелі і фармальны бок справы — прынялі новых членаў і ўручылі ўсім членскія білеты.

Члены гуртка рэгулярна збіраюцца на свае сходы, спалучаныя з вечарынамі, на якіх часта арганізуюцца «згадуй-згадулі» і танцы. Мастаўлянская моладзь хоча навучыцца танцаваць наймаднейшыя танцы, і таму ўжо зрабілі адпаведны крок, каб запрасіць з Беластока спецыяліста ў галіне сучасных таварыскіх танцаў.




Цяпер хлопцы і дзяўчаты з Мастаўлян, якія вучацца ў Беластоку, шукаюць па гарадскіх бібліятэках новы рэпертуар да наступнага прадстаўлення. А вясковая моладзь чакае сваіх студэнтаў, якія прыедуць на зімовыя канікулы, каб у студзені зноў быць гатовымі выступіць з чарговым канцэртам.

Ёсць энтузіязм, ёсць энергія і ахвота да працы, — значыць, не будзе ўжо сумна моладзі ў Мастаўлянах.

Гледзячы на маладых, і старэйшыя людзі заварушыліся. Папрасілі кіраўнічку школы, каб арганізавала ім курс у рамах пачатковай школы.

Адразу запісалася 18 чалавек. Ахвотныя ёсць у суседніх вёсках.

— Цяпер без навукі нічога, — сказала мне маці чацвёра дзяцей з вёскі Габяты. — Вось я і запісалася на курс у Мастаўлянах. Дзеці мне памагаюць па арыфметыцы. Хоць і галава ўжо не так працуе, як раней, і пры доме работы не бракне, але школу добра было б скончыць. Нічога не варты цяпер нявучаны чалавек.

Мая субяседніца згаджаецца хадзіць усю зіму па чатыры разы ў тыдзень у суседнюю вёску за некалькі кіламетраў, каб здабыць пачатковую адукацыю. І гэта ўжо галоўны доказ, як людзі разумеюць патрэбу навукі.

Як бачым, нават самыя аддаленыя закуткі захапіў агульны нурт імкнення да ведаў, да сучаснасці, да таго каб ісці крок у крок з сённяшнім днём. (яч)

АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ НАСТАЎНІКАЎ

# ІНФАРМУЕ КУРАТАР

Сярод настаўніцкага асяроддзя і беларускага актыву часта ставіцца пытанне: што будзе далей з падрыхтоўкай настаўнікаў — спецыялістаў беларускай мовы? Каб растлумачыць пытанне, менш паінфармаваным падаем, што педагагічны ліцэй у Бельску, які ад 1950 года рыхтуе настаўнікаў для беларускіх школ, за 2 гады перастане працаваць, таму што ўсе педліцэі ў Польшчы ліквідуюцца. Завочнае аддзяленне Настаўніцкай студыі ў Беластоку таксама ўжо некалькі год не мае набору на беларускую філалогію. **Вышэй успомненыя непакоіліся пра далейшы лёс падрыхтоўкі настаўнікаў — спецыялістаў беларускай мовы. У сувязі з няяснай сітуацыяй прадстаўнік нашай рэдакцыі наведаў куратара Беластоцкай школьнай акругі мгра Эдварда Крыньскага.** Пераказваем змест інфармацыі куратара:

Фактычна, педагагічны ліцэй у Бельску ліквідуецца. Паколькі гэта справа агульнапольская, міма стараннясў улад у Бельску і Таварыства, каб прадоўжыць на некалькі год яго дзейнасць, прадоўжыць не ўдалося. Пакуль што абсальвенты з гэтага ж ліцэя поўнасцю абяспечваюць кадрай беларускія школы. Мала таго, здараюцца выпадкі, што з прычын недахопу месца ў беларускіх школах, некаторыя з іх працуюць у польскіх асяроддзях. Калі разыходзіцца аб недахоп кваліфікаваных настаўнікаў бел. мовы ў Сакольскім павеце, дык гэта, у пэўнай меры, аб'ектыўная прычына, таму што ў асноўным вучні педліцэя выводзяцца з Бельскага і Гайнаўскага паветаў і хочуць астацца працаваць бліжэй сваёй сям'і. Куратарыя не мае ніякіх правоў, каб іх прымусіць ісці працаваць у Беластоцкі ці Сакольскі паветы.

Зараз, зрэшты, гэта трывае ад некалькіх год. Куратарыя рэзервуе ў бюджэце грошы на адкрыццё завочнага аддзялення беларускай філалогіі пры СН у Беластоку. Улічваючы малую колькасць кандыдатаў (бо малыя патрэбы), Куратарыя вырашыла нават стварыць беларуска-рускую групу. На жаль, ужо некалькі год, міма перасылання ў Аддзелы асветы размеркавальнікаў аб наборы, не было кандыдатаў. І толькі таму не было адкрыта аддзяленне міма, што фармальна яно існуе і зараз.

Стацыянарнае аддзяленне беларускай філалогіі можа быць адкрыта толькі і выключна пасля спынення выпускаў у педліцэі ў Бельску. Паколькі СН-ы абапіраюцца на абсальвентах агульнаадукацыйных ліцэяў, а ў сувязі з рэформай школьніцтва ў іх адзін год не будзе выпуску (г. зн. у 1969 г.), пасля кансультацыі з Міністэрствам асветы і вышэйшай адукацыі вырашана, што **стацыянарнае аддзяленне бел. філалогіі пры СН можа быць адкрыта не раней, чым у 1970 годзе.**

Зрэшты, перспектывы рэарганізацыі падрыхтоўкі настаўнікаў астаткова яшчэ нявырашаны. Адно вядома, — гаварыў куратар Э. Крыньскі, — што калі паўстала б у Беластоку трохгадовая **Вышэйшая настаўніцкая школа, міма таго, што падлягала б яна непасрэдна Міністэрству,** (а не як СН-ы Куратарыі) **з адкрыццём беларускай філалогіі не будзе цяжкасцей.** Справы будучыні падрыхтоўкі настаўнікаў беларускай мовы неаднаразова абсуджаліся ў Міністэрстве, і яны вядомы яго адказным працаўнікам.

Пераказаў **А. К.**

# КАЛЯНДАР — 1968

«Беларускі каляндар» з'яўляецца, як вядома, кніжкай, якая налічвае звыш 200 старонак друку. Зрэдагаваць такую кніжку на працягу некалькіх месяцаў адной асобе — справа нялёгкая. Каляндар на 1968 год пачаў рэдагавацца пазней, чымсьці звычайна, а адначасова выйшаў з друку ўжо ў кастрычніку — гэта значыць многа раней, чымсьці календары ў папярэдніх гадах. За гэты надзвычай хуткі, як на нашыя ўмовы, тэмп у яго выданні мы ўдзячны рэдактару сёлеташняга выдання «Беларускага календара» — Сакрату Яновічу. Трэба прытым адзначыць, што каляндар выйшаў у павышаным тыражы 6000 экземпляраў.

Пахваліць аднак варта рэдактара календара не толькі за тэрміновасць у яго выданні, але і за адпаведна дабраны і прадуманы змест. Каляндар змяшчаць у сабе павінен магчыма шырокі дыяпазон патрэбных на штодзень практычных парад, цікаўнасцей з розных галін жыцця, а таксама інфармаваць аб найважнейшых праблемах сучаснасці. Каляндар на 1968 год усё гэта змяшчае, аб усім гэтым інфармуе.

Каляндар пачынаецца раздзелам нaвязваючым да вялікіх дат — 50 год камуністычнага руху ў Польшчы. Даведваемся адсюль аб узнікненні КПРП і КПЗБ і аб далейшых лёсах камуністычнага руху ў Польшчы. На асаблівую ўвагу заслугоўвае артыкул доктара Генрыка Маецкага «З гісторыі ППР ва ўсходняй Беласточчыне», у якім звяртаецца ўвагу на вялікую ролю беларусаў у заснаванні ППР і ўмацаванні народнай улады на Беласточчыне. У раздзеле: «Ад веку мы спалі» знаходзім матэрыялы з дзейнасці Грамады на Беласточчыне, а ў матэрыялах публікаваных з нагоды 50 гадавіны Савецкай Арміі звесткі аб славутых савецкіх палкаводцах — нашых земляках: маршалу СССР, герої Савецкага Саюза Васілю Сакалоўскім родам з Козлікаў, генералу Аляксандру Вашкевічу родам з Белавежы, генералу Мікіце Казачуку родам з Трасцянкі.

У багатай частцы розных практычных парад на асаблівую ўвагу заслугоўваюць матэрыялы аб ахове здароўя Юркі Геніюша. Цікавыя таксама парады адносна звычаяў і паводзін адзінкі ў розных жыццёвых сітуацыях. Аднак аўтару парад не ўдалося ўвайсці ў сітуацыю асноўнага чытача «Беларускага календара» — селяніна. Парады пісаны з пункту гледжання жыхара горада і для жыхараў горада. Для прыкладу:

«Калі хочаш каго наведаць, павінны спачатку паведаміць».

Звычай гэты зрадзіўся параўнальна нядаўна ў горадзе. На вёсцы няма для гэтага ні магчымасці, ні сэнсу (няма перад усім у хатах тэлефонаў, пры дапамозе якіх сяляне маглі б узаемна «паведамляцца»).

Каляндар замыкаюць розныя цікаўнасці — аб тэлепатыі, аб жыцці ў космасе і гд. Варта адзначыць добрую, не шаблонную вокладку, зробленую вядомым беластоцкім мастаком Стэфанам Рыбім.

Календарыум у гэтым годзе зроблена вельмі прадумана ў форме асобнай укладкі, якая можа быць насценным календаром. (п)

УЛАДЗІМІР ШАЎЧЭНКА




(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары).

Цёплая і ранняя вясна таго года разам з радаснымі весткамі з фронту ўсяляла ў нашыя сэрцы глыбокую надзею на хуткую перамогу, напаўняла нас сілаю і натхняла на няспынную барацьбу з заклятым ворагам. І мы ў меру ўсіх сваіх сіл змагаліся. То тут, то там ад нашых мін узляталі паравозы і аўтамашыны, у абочыны дарог валіліся гітлераўцы і іх прыслужнікі. Агонь з'ядаў быдла і прадукты, награбленыя для ненавіснай Нямеччыны. Аматары «прагулак» — салдаты і паліцэйскія не вярталіся ў свае казармы. Брыгада «У імя Радзімы» жыла, расла і дзейнічала ў імя сваёй славутай Айчыны.

У канцы красавіка, па заданню камандвання злучэння мне прыйшлося весці разведку ў мэтах арганізацыі партызанскага руху ў неасвоеным яшчэ намі Лапскім раёне, у вёсках Альшэва, Пшыбарава, Кабыліна, што больш на паўночны захад ад Лап і захад ад Беластока. Вярнуўшыся пад Бранск, у распараджэнне атрада імя Жукава, у камандзіра атрада Паўла Разіна мяне чакаў пасыльны ад камандзіра брыгады Мартынава (у далейшым буду называць Янкоўскага яго партызанскай мянушкай), з яго запіскай. Мне прыказвалася сабраць групу ў атрад і накіравацца ў Белавежскую пушчу для выканання аперацыі па захаванню зуброў.

Не ведаючы намераў акупантаў і рашэння штаба брыгады, я ў той час не мог уявіць нашу сувязь і нашыя адносіны да гэтай жывёлы, з якой, трэба сказаць, мне яшчэ не прыходзілася сустракацца. Спачатку была думка, што Мартынаў пад назваю жывёлы мае на ўвазе нешта іншае, а камандзір узвода Міхаіл Цішчанка, які знаходзіўся каля мяне, з уласцівым для яго характару гумарам запытаўся: — ... «Ці не думае камбрыг аддаць нас фрыцам у пастушкі?..»

У той жа час Цішчанка быў пасланы ў штаб брыгады, а я заняўся зборам атрада. Аказалася, што Мартынаў меў даныя аб намеры акупантаў адлавіць у пушчы зуброў для адпраўкі ў Германію, а пры немагчымасці гэта зрабіць — адстраляць іх. Цішчанка паведаміў аб папярэджанні камандзіра брыгады ў тым, што народ можа нам прабачыць кожную няўдачу ў барацьбе з ворагам, але толькі не гэтую, што мы партызаны пушчы і яе навакольных раёнаў не маем права аддаць немцам вельмі рэдкай жывёліны, не толькі дадзенай краіны, але і наогул усяе планеты.

У партызана жыццё на хаду, а зборы нядоўгія, і мы ўжо былі ў дарозе.

Ад Бранскіх пералескаў маршрут праходзіў паблізу вёсак Стрыек і Аўгустова, а далей абышоўшы Бельск з поўначы, праз асабліва дружалюбныя нам Відоўскія хутары, міма Чыжоў і Чыжыкаў, праз чыгунку ля Навасадаў, проста ў пушчу для нясення, як ужо жартуючы гаварылася, «пастуховай службы».

Яшчэ дзень для ўсведамлення плана аперацыі і вывучэння карты раёна дзеяння і выбраныя групы накіраваліся выконваць аперацыю.

Сутнасць плана правядзення гэтай аперацыі заключалася ў тым, каб, удакладніўшы месцы знаходжання зуброў і ведучы нагляд за іх перамяшчэнне, праводзіць глыбокую па многіх каналах разведку намераў немцаў, якія дыслакаваліся ў самой Белавежы і населеных пунктаў, якія прымыкаюць да паўночна-заходняй ускраіны Белавежскай пушчы.

Пазбягаючы непасрэдных сустрэч з акупантамі нам неабходна было стварыць уражанне адсутнасці ў пушчы вялікай колькасці партызан, з тым, каб працаўнік не меў асноў працягваць павелічэння колькасці салдат гарнізонаў, з якімі нам было б не пад сілу весці за зуброў барацьбу, калі б яна аказалася неабходнай.

Уся складанасць стварыць сярод акупантаў такое ўражанне заключалася ў тым, што мы адначасова павінны былі ўсяляк стрымліваць іх ад свабоднага перамяшчэння па пушчы і тым самым перашкодзіць ім у пошуках зуброў у выпадку, калі б у іх паўстала да гэтага спешная неабходнасць.

Да пачатку мая 1944 года гестапа было ў нейкай ступені паінфармавана аб дыслакацыі нашых атрадаў. У сувязі з гэтым Ваўкавыская і Гайнаўская школы індывідуальнай падрыхтоўкі шпіёнаў да гэтага часу датэрмінова выпусцілі і паспелі заслаць сваіх лазутчыкаў ва ўсе раёны нашага дзеяння.

## ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА




Пасля звароту на Беларусь Каліноўскі і Яновіч часта раз'язджалі па мястэчках і вёсках. Найчасцей знаходзіліся на Беласточчыне. Безупынна наведвалі сёлы, кірмашы, карчмы, гутарылі з сялянамі, з юнакамі і дзяўчатамі. Усюды былі чутны адны і тыя ж самыя словы:

— Бяда, гора. Цар і памешчыкі ашукалі нас сваёю рэформай.

Даволі часта ў сялянскіх гутарках адчувалася атмасфера пагрозы:

— Даволі цярпелі. Адбяром зямлю сілай. Возьмем у рукі вілы і косы. Нас больш, чым паноў. Невядома, хто каго пераможа!

Каліноўскага выразна цешыў рост сялянскай свядомасці. Асабліва захапляў яго запал моладзі, гатовай змагацца за свае правы і за зямлю.

— Нам неабходна свая газета, — гаварыў Кастусь Васілю. — Без газеты мы не падрыхтуем паўстання. Рэвалюцыйны часопіс згуртуе нашых сяброў і прыхільнікаў, звяжа нас з народам.

— Згаджаюся з табой, — адказаў Васіль, — ды цэлая бяда ў тым, што мы не маем матэрыяльных сродкаў, пазбаўлены друкарскай базы, ды і людзей нам не хапае.

— Не бядуй, — упіраўся Кастусь, — усё знойдзецца. Галоўнае, гэта ўстанавіць канцэпцыю газеты, даць ёй канкрэтны загаловак, а таксама акрэсліць месца, у якім часопіс будзе выходзіць.

Яновіч, нарэшце, згадзіўся з Каліноўскім.

— Адносна вырашэння іншых спраў мы павінны скантактавацца* з палякамі, яны павінны нам дапамагчы. Маюць жа вопыт у падпольным друку.

Прайшло некалькі тыдняў, Каліноўскі вёў перагаворы з польскімі сябрамі. Рэвалюцыйныя дзеячы Польшчы абяцалі матэрыяльную дапамогу.

Каліноўскі трыумфаваў.

— Будзем мець, Васіль, газету, якой яшчэ свет не бачыў!

Сабралася група людзей. Пачалі супольна абмяркоўваць справу загалоўка газеты. Разглядалі розныя назвы: «Свабода», «Вызваленне», «Барацьба», «Наперад».

Каліноўскі задумаўся.

— Ведаеце, — сказаў ён, — усе гэтыя загалоўкі занадта надзьмутыя. Ці не лепш было б назваць газету неяк проста, зразумела для шырокіх кругоў вясковага насельніцтва?

— Ну, дык што прапануеш? — спытаў адзін з удзельнікаў сходу.

— Зусім проста, — адказаў Кастусь, — прапаную назваць газету «Мужыцкая праўда». У гэтых словах заключаецца ўся істота сялянскіх імкненняў, надзей і патрабаванняў.

— Дасканала прыдумана, — падтрымаў Кастуся Яновіч, — проста, шчыра, пераканаўча і ясна.

Усе згадзіліся.

Летам 1862 года Каліноўскі і Яновіч ехалі з Валкавыска ў Беласток. На ўскраіне Беластока затрымаліся ў малым доміку. Тут іх сустрэлі польскія падпольшчыкі. Кастусь коратка расказаў аб выдавецкім плане. Яго прапановы былі адобраны і прыняты. Цэлы месяц пасля гэтага Кастусь і Васіль збіралі паперу і друкарскія прылады. Урэшце ўсё было знойдзена.

Кастусь замкнуўся ў малым пакойчыку, шчыльна засланіў вокны, запаліў свечку, сеў за стол, задумаўся і вывеў на белай паперы першыя словы «Мужыцкай праўды»: «Мы, мужыкі, браты вашыя, мы будзем гаварыць цэлую праўду, толькі слухайце нас».

Кастусь на хвіліну задумаўся, і пяро з ціхім скрыпам ізноў паплыло па паперы.

«Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здасца толькі да сахі — цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаць, і то пісаць праўду справядлівую».

Доўга яшчэ пісаў Каліноўскі аб несправядлівасці царскай зямельнай рэформы, аб ашуканствах памешчыкаў і чыноўнікаў, аб неабходнасці барацьбы за свае інтарэсы.

Калі ўрэшце скончыў, паклікаў Яновіча.

— Паслухай, прачытаю табе першы нумар газеты.

Выслухаўшы з вялікай увагай артыкул Кастуся, Яновіч адказаў:

— Дасканала, вельмі добра. Толькі мне здаецца, што больш яскрава трэба падкрэсліць, што ўся панская і дзяржаўная зямля без ніякага выкупу павінна быць перадана сялянам. Каліноўскі яшчэ раз прачытаў артыкул і згадзіўся з Яновічам. Ён ізноў узяўся за пяро і паправіў артыкул.

— А цяпер, — звярнуўся ён ізноў да Васіля, — застаецца нявырашанай яшчэ справа подпісу аўтара. Трэба неяк падпісацца. Трэба аднак захаваць асцярожнасць, каб не навесці на свой след жандараў.

— Падпішы: «Яська з-пад Вільні», — параіў Яновіч, — няхай цябе і шукаюць пад Вільняй.

— Дасканала прыдумана, — уцешыўся Кастусь і акуратна вывеў пад артыкулам: «Гэту «Мужыцкую праўду» напісаў і зноў пісаць будзе Яська, гаспадар з-пад Вільні».

На другі дзень Яновіч панёс артыкул у маленькую падпольную друкарню. Разам з новым сябрам, палякам Янкоўскім, доўга наладжвалі машыну. Нарэшце пачалі выходзіць з яе невялічкія лісты «Мужыцкай праўды»...

**Алесь Барскі**

Урывак з апавядання «Абразкі з жыцця Кастуся Каліноўскага».

1. Дзе і ў які час адбываюцца падзеі апісаныя аўтарам у апавяданні?
2. Якія настроі панавалі сярод сялян?
3. Чаму Кастусь Каліноўскі вырашыў назваць газету «Мужыцкай праўдай?»
4. Хто і чаму дапамагаў беларусам друкаваць газету?
5. Аб чым пісаў Кастусь Каліноўскі ў першым нумары «Мужыцкай праўды»?
6. Выпішыце з апавядання словы звязаныя з выдавецтвам газеты. Складзіце з гэтымі словамі сказы.
7. Назавіце газеты, якія друкуюцца ў Беластоку.

**Слоўнік**

Скантактавацца — наладзіць зносіны.




(Працяг са стар. 1)

складае больш-менш 15 цэнтнераў з аднаго гектара. **Значыць, каб атрымаць 90 цэнтнераў збожжа, трэба адвесці пад яго прынамсі 6 гектараў зямлі.**

Колькі гаспадароў у гэтых паветах можа сабе дазволіць на гэта?

Адгадваць не будзем. У статыстычным гадавіку для Беластоцкага ваяводства сказана, што збожжавыя культуры ў гэтых паветах займаюць каля 60% поля. **Значыць, правілея ВЗГС-у датычыць гаспадароў, якія маюць не менш 10-ці гектараў ворнай зямлі.** У Беластоцкім павеце ёсць такіх гаспадароў каля 20-ці працэнтаў, у Бельскім — каля 26-ці працэнтаў, у Гайнаўскім — 20 прац., у Сямяціцкім — 23 прац., у Сакольскім — 30 прац. Затое найбольш такіх гаспадарак у Элцкім, Алецкім і Сейненскім паветах. З прывілеі ВЗГС могуць карыстаць спулдзельні прадукцыйныя і ПГР-ы, якія гуртам адстаўляюць збожжа. Гэта знаходзіць сваё адлюстраванне ў лічбах. **Непасрэдна ад земляробаў гандлёвыя ўстановы Беластоцкага ваяводства адабралі ўласным транспартам у гэтым годзе 840 тон збожжа. На Элцкі павет з таго прыпала каля палавіны.**

А што для малазямельных, для бедных?

Калі да справы падыйсці з гандлёвага боку, ВЗГС не павінен пакідаць іх без дапамогі. Гэтых малазямельных больш, і яны, калі іх адпаведна матэрыяльна зацікавіць прадажай збожжа, дастаўляць яго разам куды больш, чым багатыя. Астаткова для ВЗГС-у затраты на транспарт аднолькавыя: ці шафёр едзе за 5, 3, 1 ці палавінай тонамі. Заехаўшы ў вёску, можа загрузіць аўтамашыну да адказу. Толькі трэба дабіцца, каб адхіліць гэты абсурдны загад, што без заплаты за транспарт можна браць толькі звыш 3-х тон збожжа. Проста замест адной квітанцыі, прымаючы збожжа, выпіша іх некалькі — на кожнага гаспадара-пастаўшчыка аддзельна.

**Віктар Рудчык**

## 500 ТОН СОЛІ

Каля 500 тон солі выкарыстоўвае за зіму Раён эксплуатацыі дарог у Бельску Падляшскім. Соль вымешваецца з пяском у колькасці каля 3% і высыпаецца на дарогу. Апрача солі бельскія дарожнікі падрыхтавалі шэраг машын неабходных да акцыі адснежвання дарог. Машыны пазычаюць на зіму пераважна з ПОМ. Дарожнікі маюць амбіцыю ўтрымаць праз усю зіму дарогі ў добрым стане, магчымым для праезду машын. Упершыню прытым на шашы Беласток—Сямяцічы ўводзіцца т. зв. «патрулёвую акцыю». Машыны будуць тут зматаць з шашы найдрабнейшы нават снег, каб такім чынам не дапусціць да ўзнікнення непрыемных калаін. (п)

## Шулецкая ў „Работніцы і сялянцы"

У найвялікшым беларускім ілюстраваным часопісе «Работніца і сялянка», які разыходзіцца ў тыражы каля 240 тысяч экз., надрукавана апавяданне Марыі Шулецкай — «Першы каханы».

Марыя Шулецкая, польская пісьменніца, якая жыва цікавіцца жыццём і гістарычным мінулым нашага беларускага люду на Беласточчыне. Піша новую кніжку «Таптаная зямля», у якой расказвае аб дзейнасці КПЗБ, аб жыцці беларускай вёскі на Беласточчыне ў часы санацыйнай улады ў Польшчы.

(С.Я.)




**Вятрак Кастуся Брысюка з вёскі Войнаўка, Гайнаўскага павета.**

**Фота: Я. Цялушэцкі**

Некаторым з іх удалося прасачыцца ў атрады разам з папаўненнем, якое прыходзіла да нас. Распазнаць вышкаленых у гестапа шпіёнаў з ліку здраднікаў польскага ці савецкага народа, якія раней пабывалі ў лагерах ваеннапалонных, было пытаннем складаным і падчас невырашальным, што і выкарыстоўвала гестапа.

Некаторыя трапіўшыя да нас шпіёны прыкладна да 5—8 мая паспелі нанесці для брыгады значныя страты. Гэта адбылося ў атрадзе імя Дзяржынскага, у Белавежскай пушчы, паблізу Гайнаўкі і ў атрадзе імя Жукава, паблізу Бранска, дзе шпіёны схаваўшыся ноччу ад атрадаў прывялі да раніцы вялікія групы карнікаў, якія акружылі шчыльным колам размяшчэнне атрадаў. У барацьбе мы не далічыліся шасці сваіх таварышаў. Немцаў жа было знішчана адным толькі атрадам імя Жукава звыш 20 чалавек.

Пры расследванні абставін у атрадах было знойдзена яшчэ некалькі варожых лазутчыкаў. Але ніхто не мог даць гарантыі таго, што ўсе лазутчыкі, якія перабраліся ў атрад, абясшкоджаны.

Сыходзячы з гэтага аб самай сутнасці «пастуховай службы» нават непасрэдна ў нашым атрадзе імя Хмяльніцкага ведалі далёка не ўсе і асабліва навічкі.

Для выканання задання атрад зноў падзяліўся на групы, а базай яго стаўся ўчастак пушчы, які прымыкаў да вёскі Арэшкава. Якраз у той час да нас у атрад уступіў селянін са Старыны, Кляшчэлеўскага раёна, надзвычай добры следапыт — разведчык — Ахрэмук Іван Васільевіч, які вельмі добра ведаў Белавежскую пушчу. Ён хадзіў па ёй, у адрозненні ад нас, без компаса і карты, заўсёды па простай і дакладна трапляў туды, куды нам трэба было. Ведаў забалочаныя кварталы і тыя, у якіх звычайна вадзіўся той або іншы звер, у тым ліку зубры, якія паразыходзіліся за гады вайны ў розныя ўрочышчы.

У селяніна Ахрэмука было мноства сваякоў і знаёмых, якія з прымусу акупацыйных улад працавалі ў пушчы на нарыхтоўках і вывазцы лесу і нават у размяшчэннях варожых гарнізонаў. Здаралася, што адна прысутнасць Ахрэмука ў атрадзе або групе выклікала прыхільнасць да нас зусім незнаёмых нам мясцовых жыхараў, яны ахвотна перадавалі нам, якія мелі, звесткі не толькі аб складзе гарнізонаў і ўзбраенні, але і аб намерах ворага. Ён жа перакладаў нам незразумелыя польскія словы. Дзякуючы Ахрэмуку і іншым нашым сувязным мы ў хуткім часе ўвайшлі ў курс шматлікіх спраў і падзей у гарнізонах ворага, паміж якіх прыйшлося жыць і працаваць.

Нас паведамілі аб размовах немцаў з іх даверанымі стаўленікамі, аб мяркуючых каральных экспедыцыях і выездах у пушчу.

Сыходзячы з паведамленняў сувязных і знаёмых, а таксама і з асабістых назіранняў нашых груп да чэрвеня 1944 года ў зонах нашага атрада налічвалася дзесяць зуброў. Гэта не была служба пастушкоў мірнага часу і нельга было адкрыта хадзіць услед за чарадою або загнаць адзіночак у стада. У Белавежы ўмацаваўся моцны гарнізон захопнікаў з вялікім лікам, не горш ад шматлікіх нас натрэніраваных і абучаных следапытаў. Была спецыяльная так званая паляўнічая каманда за партызанамі. Неабходным прыватным пераходам па пушчы перашкаджалі добра праглядваемыя, як стрэлы роўныя, прасекі, якія чаргаваліся праз кожны кіламетр з усходу на захад і з поўначы на поўдзень.

Здаралася, што на нейкі час зубры ўцякалі за нашы зоны назірання, і зноў вяліся пошукі.

Мартынаў падробна цікавіўся вынікамі нашай работы, і мы яго сістэматычна аб усім інфармавалі.

У мэтах выратавання зуброў ад зайздросных нямецкіх вачэй, прыходзілася, як у нас гаварылі, прывязваць немцаў кароткімі вяроўкамі да іх гарнізонаў, г. зн. спосабам некаторага мініравання лясных дарог або дэманстрацыяй перамяшчэння па пушчы «вялікіх» партызанскіх сіл з «выпадковымі» выстраламі трымаць акупантаў у межах іх умацаваных участкаў. Такая дэманстрацыя зроблена з паступленнем да нас звестак аб намеры часткі белавежскага гарнізона выйсці ў пушчу як быццам бы для палявання на ласёў. І паляванне адразу было адменена. Спосабам распускання пагаласкі аб мініраванні намі лясных дарог спынялася часова рух там, дзе нам трэба было.

Іншы раз было не пад сілу адказацца ад прадвяшчаўшай удачу засады і тады на лясных дарогах заставалася па некалькі «адвязаўшыхся» ад гарнізонаў салдат, афіцэраў або паліцэйскіх. Спачатку за такія аперацыі Мартынаў нас трохі лаяў, апасаючыся, што захапіўшыся знішчэннем адзінак або невялікіх груп ворага, мы рызыкуем прапусціць даручанай для назірання і аховы жывёлы. Пры гэтым камбрыг з азартам паляўнічага цікавіўся падрабязным ходам аперацыі і яе вынікам, і мы добра разумелі яго ўпоеную радасць нашай удачы.

Так прайшло звыш 2-х месяцаў. З набліжэннем фронту ў гітлераўцаў паявілася многа клопатаў больш сур'ёзных, чым адлоў зуброў, і мы часцей пачалі грэбаваць скрытнасцю, больш актыўна пачалі ганяцца за непрапіса-






## ДАЛУЧЭННЕ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ ДА РАСІІ Ў ЧАСЕ ПАДЗЕЛАЎ ПОЛЬШЧЫ 2)

Магнаты і заможная шляхта замест колісьніх умацаваных замкаў у гэты час узводзілі ў сваіх маёнтках раскошныя палацы. Да найбольш выдатных сярод іх належаў палац Радзівілаў у Несвіжы. Палацы ўпрыгожваліся адмысловымі скульптурамі і карцінамі, выкананымі беларускімі мастакамі і запрошанымі з-за мяжы. У цэнтрах гарадоў сродкамі мяшчан будаваліся высокія і прыгожыя гарадскія ратушы і крытыя рынкі. Брацтвы аднаўлялі старыя і будавалі новыя царквы. Іх упрыгожвалі роспісямі таленавітыя мастакі. Сярод іх вылучаўся талентам Рыгор Мядзведзькі, які выканаў дасканалыя роспісі ў царкве ў Журавічах.

Магнаты засноўвалі пры сваіх палацах прыдворныя паншчынныя тэатры. Артыстаў да іх набіралі з асяроддзя прыгоннай сялянскай моладзі. Навучалі ж акторскаму і балетнаму майстэрству акторы і балетмейстары, запрошаныя з Італіі і Францыі. Асаблівым майстэрствам славіўся гродзенскі балетны тэатр, які, разам са школай балету, заснаваў граф Цізенгаўз. У пазнейшы час гэты тэатр быў ахвяраван Цізенгаўзам каралю і паклаў пачатак варшаўскаму балету. Выдатным быў паншчынны тэатр у Шклове. Аб яго пастаноўках у той час пісалі, што ён «перавышае сваёй пышнасцю прыдворныя пастаноўкі рускія, польскія, аўстрыйскія і французскія». Пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі гэты тэатр быў перавезен у сталіцу Расіі — горад Пецярбург.

Ужо ў канцы XVII стагоддзя беларуская літаратура была загамавана ў сваім развіцці пастановай сейму Рэчы Паспалітай з 1697 года, якая забараняла складаць дзяржаўныя дакументы на беларускай мове. Нягледзячы на праследванні магнатамі, а асабліва каталічаскім духавенствам, беларускай мовы і літаратуры, беларуская літаратура не спыняла свайго жыцця. Яна стала развівацца ў розных вусных формах: песнях, казках, легендах, народных жартах і гутарках. Гэтыя творы, складзеныя невядомымі аўтарамі, перадаваліся з вуснаў у вусны, старэйшым пакаленнем малодшаму, распаўсюджваліся па ўсёй краіне і многія з іх захаваліся да нашага часу. Пашыраліся таксама на пісьме ананімныя творы. Сярод іх найбольш выдатнымі з'яўляюцца сатыры: «Прамова Івана Мялешкі» і «Ліст да Абуховіча». У гэтых творах невядомыя аўтары высмейвалі захапленне магнатаў і шляхты ўсім замежным і выступалі супраць фанабэрыі, здрады і прадажніцтва, якія панавалі ў магнацкім і шляхецкім асяроддзі. Прыдворныя паэты складалі пахвальныя вершы ў гонар сваіх апекуноў-магнатаў.

Найбольш выдатным пісьменнікам таго часу быў Сымон Полацкі. Ён пісаў вершы, драмы і творы па тэорыі мастацтва. У іх заклікаў чытачоў кахаць сваю радзіму, быць сумленнымі і адважнымі. Полацкі быў гарачым прыхільнікам уз'яднання беларускіх зямель з Рускай дзяржавай.

Сярод адукаваных людзей у той час на Беларусі пашыраліся ідэі Асвячэння. Найбольш выдатнымі іх пашыральнікамі былі К. Нарбут і Г. Страйноўскі — прафесары Віленскага універсітэта. Г. Страйноўскі ў кнізе «Навука аб натуральным і палітычным праве» пісаў, што «Кожны... чалавек ад прыроды з'яўляецца ўладаром свае асобы, таму ў адносінах да самога сябе ён ёсць ад прыроды вольным і ад іншых людзей незалежным». Гэтым Г. Страйноўскі дамагаўся перамены адсталых феадальных адносін у краіне на больш прагрэсіўныя для таго часу — буржуазныя адносіны. У іншых сваіх творах ён дамагаўся асабістай вольнасці для прыгонных сялян.

Нягледзячы на поспехі ў галіне гаспадаркі, культуры і грамадскай думкі, Рэч Паспалітая ад палавіны XVIII стагоддзя паволі, але няспынна хілілася да палітычнага заняпаду. Ва ўсёй краіне дзяржаўная каралеўская ўлада страціла сваю моц. Магнаты і шляхта не падпарадкоўваліся загадам караля і пастановам сейму. Выступаючы ў абароне сваіх класавых прывілеяў, яны не дапускалі да сур'ёзных пераўтварэнняў у краіне, якія б умацоўвалі Рэч Паспалітую. Беларускі народ падвяргаўся жорсткаму нацыянальнаму і рэлігійнаму прыгнёту.

Гэтую слабасць Рэчы Паспалітай сквапна выкарысталі магутныя суседнія дзяржавы: Прусія, Аўстрыя і Расія. Яны вырашылі падзяліць паміж сабою тэрыторыю Рэчы Паспалітай і далучыць яе да сваіх дзяржаў.

У выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе да Расіі была далучана ўсходняя частка беларускіх зямель, з гарадамі: Полацкам, Віцебскам, Оршай і Магілёвам.

У 1793 годзе адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай. Да Расіі была далучана цэнтральная частка Беларусі з гарадамі: Мінскам, Барысавам, Бабруйскам, Слуцкам, Навагрудкам і Пінскам.

Пасля трэцяга падзелу, які адбыўся ў 1795 годзе, Рэч Паспалітая трагічна спыніла сваё самастойнае дзяржаўнае існаванне. У склад Расіі ўвайшлі заходнія беларускія землі з гарадамі: Гроднам, Брэстам, Слонімам, Навагрудкам і Лідай.

Такім чынам, у выніку трох чарговых падзелаў Рэчы Паспалітай усе беларускія землі былі далучаны да Рускай дзяржавы.

Беларускі народ прыхільна сустрэў уз'яднанне з рускім народам, з якім яго злучала блізкасць мовы, звычаяў і веравызнанне.

### ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

*4. Як развівалася будаўніцтва і тэатральнае мастацтва?*

*5. Якую пастанову прыняў польскі сейм у 1697 годзе і як яна ўздзейнічала на далейшы лёс беларускай літаратуры?*

*6. Хто такі быў Сымон Полацкі і што вы ведаеце пра яго творчасць?*

*7. Прадстаўнікам якой плыні быў Г. Страйноўскі і чаго ён дамагаўся ў сваіх творах?*

*8. Якія былі прычыны падзелу Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй?*

*9. Пакажыце на карце, якія беларускія землі былі далучаны да Расіі ў 1772 годзе; у 1793 годзе; у 1795 годзе.*



## БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ

**«Рускую пляску» выконвае танцавальны калектыў Смаргонскага ансамбля песні і танца.**

### УЗНАГАРОДА ДЛЯ ЖУРНАЛІСТКІ «НІВЫ»

З нагоды 10-годдзя турыстычнай спулдзельні «Грамада» ў Беластоку ўзнагароджана юбілейнымі ганаровымі адзнакамі 10-годдзя «Грамады» групу беластоцкіх дзеячаў за іх заслугі ў развіцці дзейнасці гэтай карыснай установы. Прыемна адзначыць, што сярод узнагароджаных знаходзіцца наша рэдакцыйная сяброўка, рэд. Вера Леўчук. Віншуем яе з узнагародай!

Вера Леўчук належыць да ліку арганізатараў вядомага конкурсу **«Сядайце, едзем!»**, які праводзіла «Грамада» супольна з «Нівай» і «Газетай Беластоцкай». Конкурс гэты стаўся значнай падзеяй у культурным жыцці нашых вёсак, сотні людзей мела магчымасць пабачыць выступленні найлепшых тэатральных і мастацкіх калектываў Польшчы, а нават свету.

(ся)



ными жыхарамі нашых краін. Але і яны часта ганяліся за намі.

У ходзе «пастуховай службы» і ў далейшых аперацыях, аб якіх скажу ніжэй, асаблівую знаходлівасць і калі не гераізм, то смеласць, праявілі радавыя партызаны Ахрэму, Варыеў, Іванчэнка, Жданеня, Ампілогаў, Паўшэдны, Палешук, Бабкоў, Серадзенка, камандзір супрацьтанкавага аддзялення Бучукоў, камандзіры ўзводаў Цішчэнка і Дземідзенка, камандзір атрада Бакума і яшчэ шматлікія іншыя нашы партызаны.

Пасля вызвалення нашымі войскамі Мінска, у пушчы часцей пачалі паяўляцца паспяхова рухаючыся на захад варожыя калоны, і калі абставіны не дазвалялі біць ворага з засады (а гэта быў улюбёны партызанскі прыём) і мелася неадольнае жаданне на гэты выпадак хаця б у нейкай ступені затрымаць ворага, на праязджаючых прасеках пушчы непрыкметна паявіліся зробленыя строга па нямецкаму ўзору папярэджваючыя ад мінных участкаў знакі і паказальнікі далейшага кірунку калон.

Гэтая няхітрая задума спрацоўвалася цудоўна. Нам заставалася здалёк любавацца паслухмянасцю вадзіцеляў галаўных машын варожых калон.

Паказальнікі кірунку, як звычайна, канчаліся ў цяжка праходных або наогул непраходных участках пушчы. Непаслухмяных вадзіцеляў прыводзілі да парадку кароткія чэргі нашых аўтаматаў.

Так было да 14 ліпеня і мы канчаткова рассакрэцілі сваё знаходжанне ў пушчы. Было відавочным, што «пастуховай службе» прыходзіць канец. Але ў пушчы ўсё часцей і часцей грымелі партызанскія выстралы і гітлераўцам было ўжо не да вылоўлівання зуброў.

Становішча рэзка змянілася. Штаб брыгады загадваў усім атрадам да канца бараніць камунікацыі ад знішчэння іх уцякаючымі фашыстамі.

Самы патэнцыянальны вораг «пастуховай службы» — белавежскі гарнізон, які тры гады хаваўся ў пушчы, наспех знікнуў з яе.

Штабы брыгады і атрадаў ужо не адавалі загадаў на правядзенне баявых аперацый. Кожная група або ўзвод дзейнічалі паводле свайго меркавання і ініцыятывы. Партызанская група з 16—20 чалавек, у якой знаходзіўся аўтар гэтых успамінаў, 14 ліпеня пачула моцны трэск і грукат на чыгунцы Белавежа—Гайнаўка. Удалечыні ішоў паравоз з прычэпленым ззаду спецыяльным агрэгатам, які ламаў на хаду шпалы і біў рэйкі. Засада ўжо на месцы, ад яе да паравоза 100—80—60 метраў, шквал аўтаматнага агню і страшыдла разбурэння замаўчала. Разам з ім замаўчалі сем гітлераўскіх малойчыкаў. Усе яны засталіся на створаных імі абломках.



Група партызан атрада імя Б. Хмяльніцкага. У другім радзе першы справа, з перавязанымі на грудзях лямкамі рэчавага мяшка, жыхар Гайнаўшчыны Іван Ахрэмчук. Аўтар гэтых радкоў у цэнтры, з компасам на грудзях. Здымак зроблены 20.VII.1944 г. у Доўгім Бродзе.

15 ліпеня па чыгунцы Гайнаўка — Чаромуха фашысты рыхтавалі да ўзрыву мост праз раку Лясная Правая. Ля мосту стаялі вагон узрыўчаткі і паравоз. З высокага насыпу да падножжа мосту спускаліся ступені лесвіцы, а ад вагона па ступенях, з рук у рукі, да самага нізу перадаваліся пакеты ўзрыўчаткі. Прыгажуну мосту да краху заставалася якіх-небудзь паўгадзіны, але ён аказаўся больш шчаслівым ад гітлераўскіх мінёраў, ім і таго не было суджана. Іх папярэднікі, пільна на працягу 3-х гадоў ахоўваўшыя гэтае збудаванне, не зрабілі расчысткі хмызняку, які падыходзіў амаль да мосту.

Кусты быццам бы чакалі нас. Мінёрам было не да адпачынку і назірання. Яны спяшаліся. Спяшалася нават будучы ўжо пад прыцэлам. Дружнай пяцісекунднай чаргі пятнаццаццю ППШ было больш чым дастаткова, каб зра-

# ТРЫБУНА чытачоў

## СПОРТ НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

На Гайнаўшчыне налічваецца зараз 57 гурткоў ЛьЗС, якія аб'ядноўваюць 2093 члены. Старшынёй Павятовага праўлення ЛьЗС з'яўляецца Віця Новік, а інструктарам — Міхась Семяняка. Многа працуюць яны, каб пашырыць спорт на вёсцы.

Варта тут падкрэсліць самых актыўных спартсменаў Гайнаўшчыны. Да іх залічаюцца: Аляксандр Харкевіч, Аляксей Харкевіч і Віця Харкевіч з Ляшукоў, якія іграюць у групе «А» і занялі першае месца ў павеце ў настольным тэнісе. У групе «А» ў футбол іграюць ЛьЗС-аўцы з Нараўкі і Кляшчэль.

Вельмі папулярны на Гайнаўшчыне валейбол. Варта падкрэсліць дасягненні спартыўнай групы з Гайнаўкі, якая завецца «Каляровай». Яна іграе ў міжваяводскай лізе. Да перадавых гурткоў ЛьЗС-у адносяцца гурткі з Нараўкі, Крыўца, Старога Беразова, Рэпіск і Трасцянкі.

**Мікола Тэлешэўскі**
вёска Рэпіска




Адзін з жыхараў Шудзялава, разбіраючы вуль, знайшоў у ім 318 штук вінтовачных патронаў, якія аднёс у міліцыю. Адначасова шудзялаўскія міліцыянеры знайшлі ў лесе ля вёскі Лябедзін амерыканскі пісталет і 17 патронаў для КБКС-у. Справай занялася павятовая камендатура МО ў Саколцы.

*

Ноччу 9 снежня г. г. з клуні Яўгенія Чабана з вёскі Рафалоўка ў Беластоцкім павеце хтосьці ўкраў каля 90 кг насення канюшыны, вартасць якога ацэньваюць на 3 500 зл.

*

Яўгеній Садкоўскій з Саколкі перарабіў амерыканскую двухдаляроўку на 100-доларавы банкнот. Міліцыя арыштавала камбінатара.

*

Ян Харкевіч, якому 43 гады, з вёскі Ляўкова Старое ў Гайнаўскім павеце палкай пабіў Таццяну Дрэўноўскую, жыхарку гэтай жа вёскі. Янам Харкевічам зацікавілася міліцыя.

*

Сакольскія міліцыянеры арыштавалі 34-гадовага Генрыка Валешчука, без пастаяннага месца пражывання, які ад 1966 года не плаціў аліментаў на сваю малалетнюю дачку.

Старшыню прэзідыума ГРН у Крынках, Сакольскі павет, Таццяну Курэйчыкаву і сакратарку гэтага ж прэзідыума падазраваюць у тым, што выставілі яны фікцыйныя рахункі за выкананне рамонту адміністрацыйных будынкаў, а грошы — звыш 30 тысяч зл. — узялі сабе. З гэтай справай звязана таксама Анна Дабрэньчык, якая з'яўляецца адміністратарам жылых дамоў крынкаўскага прэзідыума. Яе падазраваюць у тым, што прысвоіла сабе 17 200 злотых з грошай за кватэрную плату, якія плацілі кватаранты.

*

У Нараўцы на акно міліцыянеру Уладзіміру Галінскаму нехта падлажыў петарду або іншы выбуховы матэрыял слабой сілы. У выніку ўзрыву вылецела акно і закурылася сцяна. Справай занялася павятовая камендатура МО ў Гайнаўцы.

**Асака**

шэціць усіх 16 ненавісных нам брудна-шэрых мундзіраў.

16 ліпеня каля 8 гадзіны вечара з двух бакоў вузкакалейнага чыгуначнага мосту ва ўрочышчы «Астатні грош» амаль адначасна загрукаталі кулямёты і аўтаматы. Па той бок вымушаны залегчы ўцякаючыя на захад гітлераўцы і подлыя здраднікі сваёй Айчыны — уласаўцы і паліцаі.

У адносінах да нас назва ўрочышча «Астатні грош» аказалася сімвалічнай. у ім мы вялі свой апошні г. зн. «астатні» бой у тыле ворага. У гэтым баі фашысты сур'ёзна ранілі камандзіра атрада, нашага сябра і таварыша Васіля Емяльянавіча Бакуму, па той бок мосту засталося 13 трупаў.

Раніцай на наступны дзень у нас была чуллівая сустрэча з загарэлымі і абветранымі разведчыкамі перадавых часцей Савецкай Арміі. Адначасова расставаліся са шматлікімі нашымі польскімі сябрамі па зброі. Мы спяшаліся на Радзіму аднаўляць сваю народную гаспадарку, аднаўляць з попелу родныя гарады і вёскі.

**Ул. Шаўчэнка**
былы начальнік штаба партызанскага атрада імя Б. Хмяльніцкага брыгады «У імя Радзімы».

## КАСТУСЬ ЗАСІМ



**Кастусь Засім трымае маладзенькага труса. Пры ім сядзіць яго 6-цігадовая ўнучка.**

Кастусь Засім з Семяноўкі (Гайнаўшчына) вядомы ў сваёй ваколіцы як былы партызан, які падкладваючы міны пад рэйкі, узрываў цягнікі нямецкіх захопнікаў.

Зараз ён з'яўляецца мясцовым актывістам. Нядрэнна Засім гаспадарыць. Некалькі гадоў меў курыную ферму, для якой пабудаваў спецыяльнае памяшканне. На яго панадворку зараз можна ўбачыць цэлы рад клетак, у якіх больш 20 трусоў. А з трусоў, як вядома, добрае мяса і добрая скурка на каўнер ці падбіўку пад пальто.

## МІКОЛА ЛЯСОТА

Мікола Лясота ўжо многа год працуе пісьманосцам і абслугоўвае некалькі вёсак. У тым ліку і вёску Скупава. Гэты чалавек сапраўды заслугоўвае на пахвалу. Ён сумленна выконвае свае абавязкі. Сяляне яго раёну атрымліваюць пісьмы і газеты без спазнення. У дождж і непагодзь ён дойдзе, хоць і ўвечары, да кожнае хаты, нават на калёніях. Не аддае ён у школе пісьмаў чужым дзецям і не пакідае ў фортцы, як рабілі гэта іншыя. Такіх людзей нам трэба.

**Крапіўка**
з-пад Гайнаўкі




**ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!**

Жыву на вёсцы ў Гайнаўскім павеце. Маю 19 год. Год таму назад я пазнаёмілася з хлопцам, які жыве ў Савецкім Саюзе. Ён часта да мяне прысылае пісьмы. Апошнім разам прыслаў мне свой здымак. Я таксама яму выслала свой здымак, аб які ён вельмі прасіў мяне ў пісьме. Цяпер я хацела б запрасіць свайго хлопца ў госці, але не ведаю, ці можна. За параду буду табе вельмі ўдзячна.

**Ж. з Гайнаўскага павета**

Можаш запрасіць у госці свайго хлопца, калі ён ужо скончыў 18 год. На час пабыўкі хлопца ў цябе ў гасцях ты мусіш запэўніць яму поўнасцю ўтрыманне, але гэта ўсё ўжо ўладзіш пры афармленні запрашэння. Ты звярніся ў Натарыяльнае бюро ў Бельску Падляшскім, і там атрымаеш спецыяльныя друкі — запрашэнне.

**Сэрцайка**

**Дарагая Крыся з Гайнаўшчыны!**

Вельмі брыдка паводзяць сябе твае сяброўкі, аднак гэта вынікае з зайздрасці, што ты атрымліваеш добрыя ацэнкі ў навуцы. Раю табе не пераймацца тым, а старацца яшчэ лепш вучыцца, тады мо і сяброўкі твае зразумеюць гэта і замест выдумляць усялякія там фокусы, аб якіх ты пішаш, возьмуцца салідна за навуку.

Жадаю поспехаў у навуцы.

**Сэрцайка.**

## СВЯТОЧНЫЯ ЁЛКІ

Ужо традыцыйна амаль кожная сям'я на Новы год і каляды ставіць ёлку. Калі да гэтага дадаць ёлкі, якія арганізуюцца ў школах, дзетсадах і прадпрыемствах, дык лік патрэбных зялёных дрэвак складзе прыкладна 10 мільёнаў штук. Гэта значыць, што 10 мільёнаў маладзенькіх 10-цігадовых ёлак трэба ў лясах вырубаць. Гэта значыць сотні гектараў лесу магло б нам за нейкі час вырасці.

У нашым ваяводстве паводле майго падліку кожны год ідзе пад сякеру 300 тысяч дрэвак. Беластоцкая дырэкцыя ляс0ў кожны год прызначае для свайго ваяводства на вырубку больш 140 тысяч штук ёлак і 110 тысяч на вываз у іншыя часткі краіны. Але гэта арганізаваная вырубка і вырубка са спецыяльных плантацый для гэтага прызначаных.

А вось сяляне здабываюць ёлкі толькі для іх вядомым спосабам. Яны не глядзяць і не лічацца з правіламі вырошчвання ў ляснойгаспадарцы.

Не прыносіла б гэтая дзікая вырубка такой шкоды лясам, каб кожны той, хто вырубае ёлку, пасадзіў адно або некалькі дрэвак у лесе. А ўжо зусім было б добра, каб кожны памятаў аб тым паднімаючы сякеру на ёлку, што трэба на месца яе пасадзіць некалькі штук.

**Ул. С.**
Беласток

## У ГАЙНАЎСКІМ ПЗГС

ПЗГС у Гайнаўцы дбае пра лепшае абсталяванне крамаў, добрыя ўмовы да працы сваім крамарнікам ва ўсім Гайнаўскім павеце.

Штогод у крамы прыбывае новая, сучасная мэбля. А тавары прывозяць новыя аўтамашыны, а нават машыны, якія спецыяльна прыстасаваны да перавозу, напрыклад, мясных вырабаў, масла, сыру і гд.

І так, закуплена за 120 тыс. зл. самаход «Нысу», які выключна будзе прывозіць у крамы мясныя вырабы і другія прадукты спажывецкага характару. Гэта самаход з ізатэрмічнай устаноўкай. Апрача таго ў гэтым годзе масарня Гайнаўскага ПЗГС атрымала 3 халадзільныя агрэгаты.

ПЗГС да ўсіх крамаў са спажывецкімі артыкуламі, а нават некаторых крамаў, дзе прадаюцца і спажывецкія прадукты, і прамысловыя вырабы, закупіў так патрэбныя халадзільнікі. Дагэтуль адчувалася іх брак, і спажывецкія прадукты прычынялі шмат клопатаў прадаўцам, асабліва летам

Крамы атрымалі 50 паемнікаў на тавары. У І паўгоддзі 1968 года ПЗГС перамэблюе ўсе крамы. Не будзе ўжо ў іх драцяных рэгалаў, якія аказаліся мала практычнымі. Дагэтуль новую мэблю мае толькі крама ў вёсцы Збуч. ГС-ы карыстаюцца выслужанымі, часцей па капітальных рамонтах, «Жукамі». Запатрабаванне на гэтага тыпу самаходы вялікае, але прыдзелы малыя. ПЗГС зараз патрабуе 5 такіх новых машын. Ад гэтага залежыць многа. І тое, што не ўсюды на час будуць давезены ў крамы свежыя хлебабулачныя вырабы, або летам ліманад, піва. А ПЗГС мае гэтых артыкулаў у дастатковай колькасці.

І ў сваіх магазінах ПЗГС змяніў многа на лепшае. Атрымалі яны 2 ручныя возікі нізкага і высокага пад'ёму за 150 тысяч злотых. Да іх закуплена 600 палетаў. ПЗГС за 65 тыс. зл. купіў транспартны возік тыпу ВН-2 з прычэпаю. Тры магазіны атрымалі новую мэблю, рэгалы, а пачкарня 4 сегментавыя печкі (с. а). Магазіны атрымаюць грузапад'ёмнік і самаходную вагу, якую выкарыстоўваць будзе база гуртоўні. Паданыя прыклады сведчаць, што Гайнаўскі ПЗГС мадэрнізуецца, мае не толькі новыя крамы і сучасную ў іх мэблю, але ідзе ў пары з духам сучаснасці.

**Янка Цялушэцкі**

## САЛДАТ ВЯЛІКІХ ДЗЁН

Янка Баршчэўскі нарадзіўся ў вёсцы Рыбакі (Беластоцкі павет) у 1915 годзе ў беднай сялянскай сям'і. Да 1915 года жыў у роднай вёсцы, пас каровы і памагаў бацьку ў розных работах. Калі жыхары беларускіх вёсак выязджалі ў бежанства ў Расію, паехаў і ён з бацькамі. Затрымаліся яны жыць у мясцовасці Кузаватава. Там жа застала яго рэвалюцыя. Калі праз Кузаватава праходзіла Чырвоная Армія, Янка добраахвотнікам уступіў у яе рады. У армію ўступілі таксама яго аднавяскоўцы Язэп і Кастусь Лаўрэшукі. Янка назначаны быў у І Сызранскі стралковы полк, а яго аднавяскоўцы ў І Віцебскі полк. Тут жа і пачаліся пераможныя баі з Калчаком і Дзянікіным, а потым з Мамантавым.

6 лістапада Янка Баршчэўскі, удзельнік Вялікага Кастрычніка, на цэнтральнай акадэміі ў Варшаве быў узнагароджаны Ордэнам СССР «За адвагу». Узнагароду ўручыў пасол СССР у Польшчы А. Арыстаў.

**М. Л.**
Бандары

## ЛЮБЯЦЬ УСЁ БЕЛАРУСКАЕ...

...так можна сказаць аб вучнях педагагічнага ліцэя ў Бельску Падляшскім. Яны ў міг раскупілі беларускія календары і зборнік вершаў Віктара Шведа «Жыццёвыя сцежкі».

Віктар Швед, аўтар многіх беларускіх вершаў, цешыцца сярод моладзі гэтага ліцэя вялікай папулярнасцю.

**Рыгор Парфенюк**
педагагічны ліцэй у Бельску Падляшскім

# КІНО

**Праграма на 1—7.I.1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
,,Bicz Boży'' (polski), 1—3. ,,Gwiazdy w morzu'' (radz.), 4—5 ,,Protegowany'' (jugosł.), 6—7.

**Кляшчэлі**
,,Sabrina'' (USA), 1—3. ,,Lenin w Polsce'' (polski), 4—5. ,,Ten wstrętny celnik'' (franc.), 6—7.

**Дубіны**
,,W poszukiwaniu wczorajszej miłości'' (węgierski), ,,Gwiazdy w morzu'' (radz.), 6—7.

**Нараўка**
,,Zielone światło'' (radz.), ,,Sami na wyspie'' (jugosł.), 3—7.

**Нарва**
,,Matczyne serce'' (radz.), ,,Pierwszy dzień wolności'' (polski), 3—7.

**Чыжы**
,,Pancernik Potiomkin'' (radz.), ,,Pluton 317''. (franc.), 3—7.

**Дубічы Царкоўныя**
,,Wołga — Wołga'' (radziecki), ,,Miejsce dla jednego'' (polski), 3—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
,,Biała pani'' (czeski), ,,Zerwany most'' (polski), 3—7.

**Орля**
,,Iwan Groźny'' (radz.), I i II s. 3—7.

**Райск**
,,Zejście do piekła'' (polski), ,,Człowiek z karabinem'' (radz.), 3—7.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
,,Dr Fabrizus działa'' (NRD), ,,Jowita'' (polski), 1—5.

**Міхалова**
,,Jowita'' (polski), 1. ,,Zwariowana noc'' (polski), 2—3. ,,Kamo znany osobiście'' (radz.), 4—5. ,,Kamo niebezpieczna misja'' (radz.), 6—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
,,Druga młodość cioci'' (węgierski), 1. ,,Czarne i białe'' (USA), 2—3. ,,Iwono Gola'' (czeski), 4—5. ,,Lebiediew contra Lebiediew'' (radziecki), 6—7.

**Шудзялава**
,,Wrzesień 1939'' (polski), 1. ,,Anioł błogosławionej śmierci'' (czeski), 2—3. ,,Zemsta OAS'' (franc.), 4—5.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
,,Iwan Groźny'' (radz.), I i II s. 1. ,,Druga młodość cioci'' (węgierski), ,,Foto Haber'' (węgierski), 3—7.

**Новы Двор**
,,Umarli milczą'' (NRD), I i II s. 1. ,,Wrzesień 1939'' (polski), ,,Anioł błogosławionej śmierci'' (franc.), 6—7.

**Ліпск**
,,Umarli milczą'' (NRD), I i II s. ,,Dziecko w szpitalu'' (radz.), 6—7.




**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa. Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP: Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3. NAKŁAD 7897

# ВАРАЖБІТКІ

У вагоне прыгараднага цягніка двое голасна размаўляюць. Паміж імі на лаўцы недапітая паўлітэрка. Адзін, стрыжаны пад машынку чалавек, пераконвае субяседніка — нізенькага, лысага:

— Не, што ні кажы, а варажбіткі не хлусяць. Адгадваюць правільна, шэльмы.

— Брэшуць твае варажбіткі, — не згаджаецца лысы.

— Ат, не верыш і не трэба. Ты паслухай. Надоечы выпіў я з Іванам, ідзем, абняўшыся, трохі хістаемся. Спыняе цыганка. «Давай паваражу, усю праўду скажу». Ну і варажы, ліха з табою. Сунуў ёй сваю рабочую далонь. Яна брахала, брахала, а потым і кажа: «З работы цябе, мілы чалавек, пагоняць».

— І спраўдзілася?

— Угадала, шэльма. Прагналі. Два разы на работу прыйшоў выпіўшы і загад на прахадной вывесілі. Праз дні два зноў убачыў тую цыганку. Падышоў сам. «Варажы, — гавару, — усю праўду скажы, што далей са мною будзе?» Яна і сказала: «Ой, харошы чалавек, цябе яшчэ горшае чакае. Ад цябе чырвовая дама ўцячэ». І што ж ты думаў? Жонка забрала малога, прыхапіла рэчы і паехала да маці. Я яе ўпрошваў, а яна: «Не хачу з чалавекам жыць, які кожны дзень п'е». А я ёй: «П'ю адзін дзень, а потым толькі пахмяляюся». Не вярнулася мая дама.

— Падумаць толькі, — дзівіцца лысы, — напрарочыла.

— Ты слухай, слухай, — хапае яго за рукаў стрыжаны, — сустрэў другую цыганку, на гэты раз старую. «Варажы», — загадаў. Тая шаптала, шаптала нешта і — лясь далонню па маёй далоні. «Чакае цябе, ласкавы чалавек, казённы дом».

— Што, турма? — лысы ажно адхінаецца назад.

— А то што ж? Казённы дом. Вось, — расказчык рукою праводзіць па сваёй стрыжанай галаве. — Пятнаццаць сутак адседзеў... Турма — беленькі дамочак, дзень і ноч вісіць замо-о-чак, — спявае ён і выліває рэшту гарэлкі ў шклянку, падстаўленую лысым.

— Вып'ем, каб яны спрахлі, гэтыя варажбіткі.

**Васіль Хомчанка**

# НІЎКА

### ВЫШЫЛА

Настаўніца: — Дзеці, хто возьме вось гэты ўзор, каб вышыць маці ў падарунак на васьмага сакавіка?

— Я! — крыкнула Оля. — Я яго дома вышыю!

Праз нейкі час Оля прынесла сваю працу ў школу, а настаўніца спытала:

— Оля, а чаму гэта ты вышыла толькі адну кветачку?

— Бо... бо ў маёй мамы часу няма, — адказала Оля

### СЯРОД ПАСТУХОЎ

— Іван, што ты ясі?
— Пячонку.
— Дай крыху мне!
— Ды тут адна костка засталася.

### РАСЧАРАВАННЕ

— Я выходжу замуж за Андрэя.
— Бедны, ён так хацеў бачыць у цябе сябра...

### ОХ І СВЕТ!..

Дзве жанчыны ідуць з рынку:

— Ой, кумо, — кажа адна, — які цяпер свет! Адзін аднаго так і хоча адурманіць... Учора ў горадзе даў мне нейкі дзядзька фальшывыя грошы за бульбу...

— Ану пакажыце, галубка, якія яны, — каб і я ведала...

— Э, я ўжо іх не маю — аддала ў краме за матэрыял.

### НУ І ЛЮДЗІ

Званок. Гаспадар адчыніў дзверы.

— У вас лопнула труба ў ванне?

— Не.

— А тут жывуць Кавальскія?

— Не, яны выехалі два месяцы назад.

— Ну і людзі! Выклікаюць вадаправодчыка, а самі выязджаюць.

### ДЫЯГНОЗ

## ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

**Чалавек, які размяняў ідэю на грошы, траціць усялякую вартасць.**

*

**Чалавек, які часта аглядаецца, многа цікавага траціць з вачэй.**

*

**Часам і ў бязвартасным смецці можна знайсці сапраўдны дыямант.**

*

**Найтрудней убачыць свае недахопы.**

*

**Крыштальна чыстага чалавека шафёр-разява возьме ды й з нянацку абхляпае балотам.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марысі Мінько з калёніі Ставок, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню п. з.

# ИВУШКА

Сл. В. Алферова Муз. Г. Пономаренко

Зорька золотая
Светит за рекой.
Ивушка родная,
Сердце успокой.

Припев:
Ивушка зеленая,
Над рекой склоненная,
Ты скажи, скажи не тая,
Где любовь моя?

Были с милым встречи
У твоих ветвей.
Пел нам каждый вечер
Песни соловей.

Припев:

Но ушел любимый —
Не вернется вновь.
Песней соловьиной
Кончилась любовь.

Припев:

### ВАКОЛ СЛАВУТАСЦЕЙ

Аднойчы да старога венскага капельмайстра з'явіўся малады чалавек з рэкамендацыйным пісьмом і папрасіў навучыць яго кантрапункту.

Адкрыўшы канверт, капельмайстр прачытаў: «Падацель гэтага — пусты фантазёр, які памышляўся на тым, што можа зрабіць пераварот у музыцы. У яго зусім няма таленту, і ён, вядома, не створыць за сваё жыццё нічога добрага. Імя яго — Іосіф Гайдн».

### ТАКСАМА

Сустрэліся два знаёмыя.

— Не, няма ў наш час сапраўдных сяброў, — гаворыць адзін з іх. — Сустрэў я аднаго добрага знаёмага і папрасіў яго пазычыць тысячу злотых. І што вы думаеце? Не пазычыў, падлюга.

— Дружа мой, я таксама падлюга.

### НАВОШТА

— Эх, Кавальскі, хацеў бы я мець столькі грошай, каб на іх можна было купіць цэлы тэатр.

— Навошта табе той тэатр?

— Ды, не! Мне патрэбны грошы!

### ЖЫВЕ ДОБРА...

Гэта было даўно, у старыя часы. Адзін перасяленец з нашай вёскі прыслаў для кума ліст такога зместу:

«Ты пытаў, куме, як я жыву. Удвох з бабуляй. У нас ужо снег выпаў. Я сяджу на хаце — латаю дзіркі. Бабуся Марта мне кулікі падае. Рукі мерзнуць... Я жыву добра: кашуля адна, а нагавіц яшчэ менш...»

Навагодні тост халасцяка.

### ДАГАДЗІЎ

За навагоднім сталом дзядзька Сымон выпіў кілішак, крякнуў ды й кажа:

— Вось я зараз з'еў бы чаго-небудзь вострага...

Трохгадовы пляменнік пабег на кухню, прынёс нож і падае дзядзьку:

— Ешце, дзядзьку, тата толькі ўчора навастрылі

### ФАСОН

Ідзе маці з дзяцьмі да знаёмых у госці. Па дарозе і кажа ім:

— Дзетачкі, калі вам дадуць нешта есці, то не з'ядайце ўсяго, а пакідайце крыху для фасону.

Вяртаюцца яны дамоў, а адзін сын і кажа:

— Мама, а Сашка і фасон з'еў...

### ЧАМУ

Перад закрыццём кафэ афіцыянт гаворыць свайму калегу:

— Чаму ты не скажаш таму тыпу ў кутку, каб ён выматаўся. Вось ужо чатыры разы ты яго будзіш, а ён зноў засынае.

— Што ж ты хочаш... Кожны раз, калі я яго буджу, ён просіць рахунак і расплачваецца.

### САБАЧЫЯ МОДЫ

Зіма

Вясна

# КУРЁЗЫ

### «Цудадзейныя лісты»

Сярод хатніх гаспадынь Швейцарыі вялікай папулярнасцю карыстаюцца «цудадзейныя лісты», прыдуманыя Мартай Вейнерт. Дэвіз пані Вейнерт просты і прывабліва: «Не грэбуйце сямейным шчасцем. Гэты шлюб можа стаць апошнім у вашым жыцці. Каб ён не стаў апошнім, часам варта паспрабаваць склеіць сям'ю, якая развальваецца, добра скампанаваным пяшчотным лістом да мужа».

### Вар'ят у метро

Амерыканская газета «Іўнінг ньюс», якая выдаецца ў г. Буфало, разважаючы аб дзівацтвах амерыканскага ўкладу жыцця, піша: «У Нью-Йорку аднаго вар'ята, які ўцёк з бальніцы, знайшлі толькі таму, што ён знаходзячыся ў метро, уступіў месца нейкай жанчыне».

### Таксама ваеннаабавязаны

«Вядома! У любы час!» — адказаў перасяленец з Англіі Ніколас Летаймер на звычайнае пры прыёме ў амерыканскае падданства пытанне суддзі з горада Каломбаса, ці гатовы ён несці ваенную службу. Уся бяда толькі ў тым, што новаму грамадзяніну ЗША роўна сто год.

## Сміюцца з НАМІ

**З пункту гледжання вераб'я аўтамабіль меней патрэбны, чым конь: ён не дае гною.**